# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 38 (293) | ГОД VII | 23 ВЕРАСНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР



фота Г. Рагазінскі

УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

## ЗАЛАТАЯ, АСЕННЯЯ РАНІЦА...

Залатая, асенняя раніца!
Харaством ты на свеце адна.
Сонца ў пушчы глыбокай купаецца
і ніяк не дастане да дна...

Мітусіцца лісцё па аселіцы,
як дзвіна матылькоў-мітульгі.
І узвее яна, і пасцелецца,
распаветрыцца на берагі.

А яны, берагі - беражыстыя,
не стрымаюць асенні напеў.
І ліецца, віецца сукрысты ён
і разгортваецца каля дрэў.

Прытулі, прыхіні на апошняе
і згадай гэты дзень залаты,
што над пушчай, згалелымі пожнямі
рассыпаў залатыя лісты.

Рассыпаў і раскідваў прыгоршчамі
на акрасу, на жаль, на ўспамін.
Развітальная хвіля найгоршая,
яна можа і сэрца спаліць.

Не бядуй, не гаруй — пад цяжарамі
мне не йсці, шчасця ў іх не шукаць,
з-за балота мігціць, за выгарамі
прамяніцца пярэстая гаць.

Не гаруй! Ты дарэмна заплакала:
я прыйду, я вярнуся ізноў.
Лёс для ўсіх не бывае аднакавы,
як для тых засмучоных лістоў.

Залатая, асенняя раніца!
З харaством, з пекнатою — бывай!
Ужо сонца за пушчу хаваецца,
кармазынам гарыць небакрай...

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## МАЛЫ ЮБІЛЕЙ



Васіль Кардзюкевіч — саліст, канферансье і кіраўнік эстрады.

Сёмага верасня «Лявоніха» наладзіла ўжо пяцісоты канцэрт, які адбыўся ў вёсцы Шымкі, Беластоцкага павету. Яе кіраўніка Васіля Кардзюкевіча застаю ў добрым настроі.

— Віншую, Вася!

— Як жа хутка ляціць час!? Здаецца, не так даўно гэта пачалося, — кажа.

— Першае выступленне эстрады, памятаю, адбылося трынаццатага лістапада 1960 года ў час пленума Галоўнага Праўлення нашага Таварыства.

— За гэты час адведалі мы, літаральна, усе вёскі і вёсачкі, дзе ёсць хоць якое-небудзь памяшканне. Няхай сабе нават старэнькая школа ці паўразваленая святліца. На кожным канцэрце «Лявоніхі» бывала не менш ста гледачоў.

— Выходзіць (перамножыўшы), што пабачыла вас звыш пяцідзесяці тысяч людзей?!

— Напэўна.

— Тады можна сказаць, што няма такой хаты, з якой бы ніхто яшчэ не быў на выступленні «Лявоніхі».

— Пацяшальныя разважанні! Дапусцім.

— Чытачы «Нівы» часта просяць у сваіх пісьмах, каб «Лявоніха» часцей прыязджала да іх мясцовасцей.

— Кожны канцэрт з'яўляецца радасным перажыццём. Часамі проста прымушаюць даць слова, што незадоўга зноў прыедзем. На жаль, больш ёсць вёсак, чым дзён года. А і адпачыць трэба, бо звычайна вяртаемся з канцэртаў не раней, як каля адзінаццатай гадзіны вечара.

— У сучасны момант «Лявоніха» з'яўляецца адзіным у ваяводстве прафесіянальным эстрадным калектывам.

— Лепш напішы: пастаянным.

— ?

— Бачыш, дасканалім сваё майстэрства ў беластоцкім музычным вучылішчы. Трэба, браток, яшчэ шмат «пазубрыць».

— Згода. Таму, мабыць, выкарысталі канікулы для далёкай паездкі па Польшчы?

— Запрашэнняў мелі, як кажуць, хоць адбаўляй. У ліпені адбылі турнэ па паўночных паветах Беласточчыны, а ў жніўні знаходзіліся ў Жэшоўскім ваяводстве. Усюды прымалі нас надзвычай горача, шчыра...

— Значыць, неабмежаваныя магчымасці.

— Тым большыя, бо намерваемся стварыць музычны квартэт для ўзмацнення акампаніяменту. Цяпер пакуль што «рыпаем» толькі на акардэоне.

— Углыбляемся ў прафесіянальныя справы. Раскажы лепей вясёлую прыгоду.

— Як вясёлую, дык з мышкаю.

— Калі ласка.

— Было гэта ў Гацьках на Бельшчыне. Выходжу з Любай Томчык на сцэну і пачынаем маналог. Сказаў я (зу-

(Працяг на стар. 3)

## РАДА І ЯЕ КАМІСІІ

Храбалы — адна з большых грамадскіх рад у Бельскім павеце. Да яе належыць 10 вёсак. А вёскі тут немалыя. У такіх, як, напрыклад, Дзяніскі ці Райск налічваецца каля 200 гаспадароў.

Грамада Храбалы лічыцца адной з перадавых у Бельскім павеце. Напрыклад, план складчын на грамадскі фонд пабудовы школ грамада Храбалы выканала як першая ў павеце яшчэ ў месяцы маі з надвыжкай 34 тысячы злотых. Абавязковыя пастаўкі тут таксама штогод рэалізуюцца поўнасцю. Пастаўкі збожжа выконваюцца па плану і тэрмінова. З вольнарынковым скупам збожжа ў Храбалах няма ніякіх цяжкасцей.

Беручы усё гэта пад увагу, здавалася б, што грамада Храбалы з'яўляецца сапраўды ідэальнай грамадай у павеце.

Аб працы грамадскай рады ў Храбалах гутарым са старшынёй прэзідыума ГРН **Міхасём Гадзінай.**

— Не лёгкая праца ў нашай грамадзе, — гаворыць старшыня. — Тэрыторыя вялікая, вёскі — таксама, а нас, штатных працаўнікоў, жменька.

— Але ёсць жа ў вас радныя, ёсць паасобныя камісіі рады. А гэта ўжо не жменька. Гэта проста армія супрацоўнікаў прэзідыума.

— Калі судзіць па колькасці, дык гэта праўда. Але калі паглядзець на якасць, гэта значыць, актыўнасць у грамадскай працы, дык справа зусім інакш выглядае.

— Ці гэта значыць, што ў вашую ГРН былі выбраны не зусім адпаведныя людзі?

— Не, я не сказаў бы так. У раду выбіраліся найлепшыя. Але вось, калі справа даходзіць да канкрэтнай дзейнасці, дык, на жаль, не ўсе радныя маюць на гэта час і ахвоту, не ўсе ад-

(Працяг на стар. 4)

# Вялікая размова

Традыцыйна ўжо, што ў трэці аўторак месяца верасня пачынаецца пасяджэнне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У параўнанні да мінулых год, гэтым разам усё адбылося без вялікага шуму. Сталася так, між іншым, таму, што апошнім часам гэтая сусветная арганізацыя не апраўдала тых надзей, якія пакладаліся на яе, і, у выніку, знеахвоціла многія дзяржавы, патрабуючыя ад яе дапамогі або, прынамсі, яснага погляду на іх справы. Безумоўна, большасць членаў ААН разумее, што на ініцыятывы і дзейнасць арганізацыі аказваюць адмоўны ўплыў імперыялістычныя дзяржавы. Пэўнае значэнне пры тым мае і той факт, што цітатнымі працаўнікамі ААН з'яўляюцца пераважна грамадзяне ЗША, а яе сядзібай — Нью-Йорк.

Зрэшты, Злучаныя Штаты Амерыкі і іх саюзнікі маюць і іншыя прычыны, каб паменшыць ролю і значэнне ААН. Не ў іх інтарэсе знаходзіцца пытанне хуткай ліквідацыі каланіялізма, як і пытанне гаспадарчага развіцця эканамічна адсталых краін. Бачаць яны ў гэтым пастаяннае абмяжоўванне сваіх уплываў.

І так, можна сцвердзіць, што ААН знаходзіцца на паваротным гістарычным шляху — цалкам яшчэ не вызвалілася з кайданаў імперыялістычных дзяржаў, але не з'яўляецца ўжо аднак занадта паслухмянай іх задумам. Аблічча арганізацыі змяняецца разам з ростам яе радоў. Трэба сказаць, што большасць новых членаў, маладых афрыканскіх дзяржаў, уносіць у атмасферу ААН антыімперыялістычны настрой — настрой міру і супрацоўніцтва. Таму гэты сусветны форум мае сваю вялікую будучыню.

Гаворачы аб паваротным гістарычным шляху, на якім у сучасны момант знаходзіцца ААН, нельга сказаць, што цяперашняе пасяджэнне будзе нудным, нецікавым. Наадварот.

Пытанне аб раззбраенні. Сітуацыя адназначная: мірным намаганням сацыялістычных і нейтральных дзяржаў супярэчаць пачынанні членаў заходніх мілітарных блокаў. Менавіта, Злучаныя Штаты Амерыкі не хочуць спыніць гонку ўзбраення, нуклеарныя выпрабаванні, правакацыі. У такіх абставінах большасць членаў ААН зможа аказаць свой уплыў на паўстрыманне шалёных замыслаў імперыялістаў. Сёння чакае гэтага ад ААН усё чалавецтва.

Пытанне ліквідацыі каланіялізма. Праўда, яшчэ XV-ая сесія ААН ухваліла па гэтаму пытанню адпаведную рэзалюцыю. Тым не менш, праблема ліквідацыі каланіялізма і надалей застаецца актуальнай. Цяпер ставіцца справа аб устанаўленні тэрмінаў канчатковага прызнання незалежнасці прыгнечаным народам. Прыняццё гэтай рэзалюцыі, чаго дамагаюцца сацыялістычныя дзяржавы, стварыла б ААН магчымасці ўмяшацца там, дзе імперыялісты не хацелі б падпарадкавацца волі народаў свету. Прапанова ўхваліць такую рэзалюцыю з'яўляецца падтрымкай каланіяльных народаў у іх барацьбе за свабоду.

Стварэнне ўмоў для свабоднага гандлёвага абмену паміж усімі дзяржавамі незалежна ад іх грмадскапалітычнага ладу і развіцця. Вядома, у сучасных умовах сур'ёзнай перашкодай у гандлёвых зносінах з'яўляюцца заходнія арганізацыі, накшталт Супольнага Рынку, якія маюць замкнуты характар. Сацыялістычныя дзяржавы і ў гэтым выпадку выступаюць у ролі абаронцаў эканамічных інтарэсаў гаспадарча адсталых краін, хуткае развіццё якіх узалежнена ад магчымасцей тавараабмену з усім светам.

І урэшце, справа прыняцця Народнага Кітая ў рады ААН. Склалася вельмі ненармальнае становішча, што існуючая 13 год найвялікшая дзяржава свету не мае свайго прадстаўніка ў сусветным форуме. Магчыма, актуальная сесія арганізацыі закончыцца з удзелам дэлегацыі Народнага Кітая — дзяржавы, у якой жыве пятая частка насельніцтва ўсяго зямнога шара.

XVII сесія ААН разгледзіць звыш 100 пытанняў. За гэты час, пэўна, не адзін раз яшчэ прыдзецца вярнуцца да розных праблем, якія пастаўлены ў парадку дня сесіі.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# СЭРЦА, ЯКОЕ НЕ ВЕДАЛА СТОМЫ



Тое сэрца перастала біцца. У сонечную раніцу 4 верасня не стала ўжо сярод нас прафесара Вітальда Славінскага.

Беззваротная гэта страта для навукі, для грамадства, якому самаааддана служыў, для ўсіх нас, якія Яго асабіста ведалі. Да гэтых шчасліўцаў і я належаў. Незабыўнымі застануцца доўгія размовы з прафесарам Славінскім, мае пабыўкі ў мінулым годзе ў Супраслі, дзе летам вучоны пражываў і праводзіў свае працы. Лугі, палі, лес з'яўляліся любімай стыхіяй вучонага. Прырода была для Яго не толькі аб'ектам захаплення. Ён яе вывучаў, у ёй бачыў і падмячаў усё тое, што для нас заставалася таямніцай. Навуковая дзейнасць не перашкаджала Яму ўдзяляць увагу кожнаму, хто наведваў прафесара. Дабрадушнай усмешкай сустракаў сваіх знаёмых, не шкадаваў для іх каштоўных гадзін. Заўсёды ветлівы, добры, пакараючы кожнага спосабам сваіх паводзін.

Мне асабіста давялося спазнаць усю дабрату вучонага, Яго надзвычай сардэчнае стаўленне да маёй дзейнасці як журналіста «Нівы». Прафесар Славінскі праяўляў самую жывую цікавасць да польска - беларускіх культурных традыцый. Ён жа сам, я б сказаў, складаў іх каштоўную, неад'емную частку. Гады знаёмства з Францішкам Багушэвічам і Янкам Купалам, аб якіх захаваў найлепшыя ўспаміны, залічаў да самага цікавага перыяду ў сваім жыцці. Мусіць і таму, што з ім спалучаліся гады Яго маладосці.

Многа ў памяці прафесара Вітальда Славінскага зацерлася. Нічога дзіўнанага, калі ўлічым, што больш паўстагоддзя мінула ад яго знаёмства з аўтарам «Дудкі беларускай», якога ведаў, будучы яшчэ хлапчуком. Аднойчы, памятаю, вучоны прадэкламаваў мне пачатак вядомага верша Багушэвіча «Хрэсьбіны Мацюка». Тады я ўпершыню пачуў Яго можа крыху архаічную беларускую мову.

— Мацей Бурачок неадназова гасцяваў у доме маіх бацькоў у Кене. Тут ён і пісаў свае «Хрэсьбіны Мацюка», — адзначаў прафесар Славінскі. Добра сабе зараз прыпамінаю, што некалькі разоў на гэты факт звяртаў увагу вучоны.

Будучы яшчэ гімназістам, ён вельмі цікавіўся Францішкам Багушэвічам. Гэтаму асабліва спрыяў час канікул, якія праводзіў прафесар Славінскі ў Кене. Ва ўспамінах Яго бацькоў Багушэвіч застаўся як чалавек, які страсна ненавідзеў царызм. Аб ім таксама расказвалі як аб любіцелю мінулага роднай зямлі.

Значна жывейшымі засталіся ў прафесара Вітальда Славінскага ўспаміны аб Янку Купалу. Асабліва зблізіўся з ім вучоны ў 1912 — 1914 г.г. у Вільні. Супольныя экскурсіі, літаратурныя вечарыны, гутаркі — усё гэта аб'ядноўвала іх. Прафесар Славінскі знаходзіўся тады ў цэнтры маладога беларускага грамадскага і літаратурнага руху, які засяроджваўся ў «Нашай ніве». Склаўся ў той час нават у Вільні своеасаблівы гурток людзей, якія абмяркоўвалі шляхі развіцця беларускай літаратуры, што, у прыватнасці, знаходзіла сваё адлюстраванне на старонках «Кур'ера літоўскага».

Прафесар Славінскі з вялікай сімпатыяй адносіўся да маладога тады Купалы. Цаніў яго не толькі як творцу, але і як чалавека, валодаючага каштоўнымі рысамі характару.

— Гэта быў у вышэйшай ступені культурны чалавек, спакойны, вельмі станоўча ўздзейнічаючы на асяроддзе, у якім знаходзіўся. Намагаўся не дапускаць да сварак, улагоджваў расшумеўшуюся кампанію, з'яўляўся заўсёды неацэнным арбітрам, — расказваў прафесар Славінскі.

У гуртку беларускай і польскай інтэлігенцыі, да якога абодва належалі, Янка Купала карыстаўся нязменным аўтарытэтам.

— Часам здаралася і так, — успамінаў вучоны, — што наш Янук недзе без следу прападаў. Пачыналіся пошукі. І вось знаходзілі мы паэта, які зашыўся ў нейкае зацішнае месца і нешта пісаў. Можа гэта ўзнікаў новы верш... Ніколі не забуду, — працягваў прафесар Славінскі, — нашай экскурсіі на Барэйкаўшчызну, дзе пражываў Уладыслаў Сыракомля. Памятаю, як Янук Купала аплятаў любімы стол паэта. Стол быў з млынавага каменя. Гэта было летам 1912 года. Тады мы спраўлялі пяцідзесятую гадавіну з дня смерці Сыракомлі.

Гэтыя свае сімпатыі да беларусаў пранёс прафесар Вітальд Славінскі да нашых дзён. Прафесар Славінскі цікавіўся дзейнасцю БГКТ і заўсёды цешыўся яго поспехамі. Уважліва сачыў таксама за нашым штотыднёвікам, якога гадавікі захаваліся ў асабістай бібліятэцы вучонага. А з выпадку пяцігоддзя БГКТ выступіў на старонках «Нівы» ад 26 лютага 1961 года з найлепшымі пажаданнямі ў адрас арганізацыі.

Праяўляючы сур'ёзную цікавасць да польска-беларускіх культурных традыцый, прафесар Вітальд Славінскі ўцягваў мяне да працы ў беластоцкім аддзеле Гістарычнага таварыства. У кастрычніку г. г. згодна з Яго прапановай меў адбыцца мой даклад на гэтую тэму. У высланым ужо ў шпіталь ліcце да прафесара я інфармаваў яго аб сваіх чарговых працах і як звычайна далучыў некалькі апошніх нумароў «Нівы». Зрэшты, ужо ў традыцыю ўвайшло, што, знаходзячыся ў камандзіроўцы, заўсёды высылаў звесткі падобнага характару. Гэта была свайго роду мая справаздача аб выніках паездкі. Будучы ў многім абавязаным прафесару Славінскаму, я імкнуўся хаця б у гэтай скромнай форме Яму аддзякаваць.

Вялікай грамадзе сваіх адданых сімпатыкаў пакінуў прафесар Вітальд Славінскі наказ нястомна і сумленна працаваць на абранай ніве.

**Мацей Канапацкі**

# ФУТБОЛ

**Становішча на 17 верасня**

### I ЛІГА

| | | |
|---|---|---|
| 1. Górnik Zabrze | 12: 0 | 21: 4 |
| 2. Polonia Bytom | 10: 2 | 17: 7 |
| 3. Zagłębie Sosnowiec | 8: 4 | 11: 5 |
| 4. Ruch Chorzów | 8: 6 | 11:10 |
| 5. Legia Warszawa | 7: 5 | 9: 3 |
| 6. Pogoń Szczecin | 7: 7 | 16:15 |
| 7. Stal Rzeszów | 7: 7 | 6: 6 |
| 8. Lech Poznań | 6: 8 | 7:11 |
| 9. Lechia Gdańsk | 6: 8 | 5:12 |
| 10. Gwardia W-wa | 5: 9 | 9:17 |
| 11. ŁKS Łódź | 5: 9 | 5:13 |
| 12. Wisła Kraków | 4: 8 | 8: 9 |
| 13. Odra Opole | 4: 8 | 6: 9 |
| 14. Arkonia Szczecin | 3:11 | 6:16 |

### III ЛІГА

Mazur — Sokół 5:2, Warmia — ŁKS 2:3, Gwardia — Skra 1:2, Husar — Włókniarz 2:6, Pogoń — Tur 3:0, Wigry — ZKS 1:2.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Mazur Ełk | 12: 0 | 34: 5 |
| 2. Skra Czarna B. | 9: 3 | 14:11 |
| 3. ZKS Zambrów | 8: 4 | 14:10 |
| 4. Gwardia Białystok | 7: 5 | 22:10 |
| 5. Włókniarz B-stok | 7: 5 | 17:12 |
| 6. Tur Bielsk Podl. | 7: 5 | 14:14 |
| 7. ŁKS Łomża | 5: 7 | 10:13 |
| 8. Wigry Suwałki | 4: 8 | 11:16 |
| 9. Husar Nurzec | 4: 8 | 10:21 |
| 10. Sokół Sokółka | 4: 8 | 10:21 |
| 11. Pogoń Łapy | 3: 9 | 8:18 |
| 12. Warmia Grajewo | 2:10 | 11:24 |

### КЛАС «А»

#### I падгрупа

Tur — Cresovia S 3:1, Żubr — Szepietowo 1:3, Jagiellonia — Gwardia 2:0, Puszcza — Uhowo 2:1, Ognisko — Husar 8:1.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Ognisko B-stok | 12: 0 | 26: 6 |
| 2. Puszcza Hajnówka | 10: 2 | 28:10 |
| 3. Gwardia B-stok | 8: 4 | 22: 8 |
| 4. LZS Szepietowo | 7: 5 | 13:21 |
| 5. Jagiellonia B-stok | 6: 6 | 18:11 |
| 6. Cresovia Siemiat. | 5: 7 | 9:15 |
| 7. Żubr Białowieża | 4: 8 | 12:17 |
| 8. Tur Turośń Kość. | 4: 8 | 11:26 |
| 9. LZS Uhowo | 3: 9 | 12:16 |
| 10. Husar Nurzec | 1:11 | 15:36 |

#### II падгрупа

ŁKS — Wigry 1:0, Mazur — Cresovia G 2:0, Czarni — Orzeł 0:3, Promień — Wissa 3:3.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Mazur Ełk | 9: 1 | 11: 5 |
| 2. Orzeł Kolno | 9: 3 | 20: 8 |
| 3. Cresovia Gołdap | 8:2 | 17: 8 |
| 4. Promień Mońki | 7: 5 | 13:14 |
| 5. Wissa Szczuczyn | 6: 4 | 14:9 |
| 6. ŁKS Łomża | 4: 6 | 10:13 |
| 7. Wigry Suwałki | 3: 9 | 7:13 |
| 8. Czarni Olecko | 2: 8 | 8:12 |
| 9. LZS Suchowola | 0:10 | 5:23 |

### ЧЭМПІЯНАТ СССР

#### I падгрупа

СКА — Дынама К 2:2, Спартак Ер — Шахцёр 0:1, Кайрат — Малдова 2:1, Жальгірыс — Зеніт 1:1.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Дынама К | 31:7 | 43:20 |
| 2. ЦСКА | 27:9 | 28:8 |
| 3. Шахцёр | 24:12 | 33:20 |
| 4. Зеніт | 19:17 | 30:21 |
| 5. Малдова | 19:17 | 25:22 |
| 6. СКА | 18:20 | 31:27 |
| 7. Кайрат | 16:20 | 16:20 |
| 8. Лакаматыў | 13:23 | 17:27 |
| 9. Даўгава | 11:25 | 14:27 |
| 10. Спартак Ер | 11:27 | 14:32 |
| 11. Жальгірыс | 11:25 | 12:39 |

#### II падгрупа

Тарпеда М — Дынама М 2:3, Авангард — Дынама Тб 1:2, Дынама Л — Нафтавік 0:1, Тарпеда К — Пахтакор 2:1, Кр. Саветаў — Спартак М 2:1.

| | | |
|---|---|---|
| 1. Дынама Тб | 26:12 | 30:16 |
| 2. Дынама М | 24:12 | 27:16 |
| 3. Тарпеда М | 22:14 | 39:21 |
| 4. Спартак М | 21:15 | 36:21 |
| 5. Пахтакор | 21:17 | 21:21 |
| 6. Нафтавік | 19:19 | 24:23 |
| 7. Беларусь | 16:20 | 18:20 |
| 8. Авангард | 15:23 | 15:26 |
| 9. Кр. Саветаў | 14:24 | 22:30 |
| 10. Тарпеда К | 13:23 | 19:34 |
| 11. Дынама Л | 13:25 | 13:36 |



# БАРОН фон ГОЛЬДРЫНГ

## Перад новымі падзеямі

ПЕРАКЛАЎ Хведар Асінч



Монікі няма!

Гэта вестка ашаламіла Генрыха. Ён ішоў па вуліцах Парыжа, не прыкмячаючы нічога, і бачыў перад сабою толькі два тэлеграфныя радкі. У яго свядомасці не ўкладалася тое, што вось, наўкола, віруе жыццё, свеціць сонца, жывуць людзі, мільёны людзей, існуе ён сам, а Монікі ўжо няма. Генрыху здавалася, што варта яму зрабіць некалькі крокаў, прайсці яшчэ крыху і сярод гэтага натоўпу людзей ён абавязкова ўбачыць яе: у белай сукенцы, з усмешкай на губах, з букетам кветак у руках.

Дзяжурны камендатуры ўручае яму спісак гасцініц, у якіх рэкамендуецца спыняцца нямецкім афіцэрам, і нейкія тры інструкцыі, надрукаваныя на машынцы.

— Рэкамендую дакладна пазнаёміцца з імі! — раіць дзяжурны, развітваючыся.

Ізноў вуліца. Здзіўлены ш..фёр раз за разам пазірае ў аглядальнае люстэрка і сочыць за гэтым незвычайным пасажырам, які безупынна ганяе яго вуліцамі Парыжа адным кароценькім словам: «Далей!» Хто ён, гэты пасажыр? П'яны, вар'ят, злачынец, што пераапрануўся ў афіцэрскую форму, і, хаваючыся ад паліцыі, блытае сляды?

Рашуча затармазіўшы, шафёр спыняе машыну.

— Месье, мы ўжо гадзіну ездзім. У мяне хутка бензін кончыцца!

— Бензін? Які бензін?.. Ах, так! Вязіце мяне да гасцініцы «П'емонт».

Аказаўшыся ў адведзеным нумары, Генрых сядае за стол і піша тэлеграму Лютцу з просьбай неадкладна паведаміць лістам усе падрабязнасці смерці Монікі. Потым не раздзяваючыся падае на ложак. Цяпер яму не трэба стрымлівацца, ён можа плакаць, уголас гаварыць з Монікай, крычаць...

Тэлефонны званок вярнуў яго да рэчаіснасці. Званіў Еверс. Усхваляваным голасам генерал загадаў:

— Неадкладна да мяне!

Генрых у кабінеце генерала.

— За гадзіну я самалётам вяртаюся ў Сан - Рэмі, — лаканічна паведамляе той.

— Чаму так раптоўна?

У Італіі стаўся пераварот. Мусаліні арыштаваны. На чале арміі і ўраду нейкі Бадоліо. Праўдападобна, нашу дывізію перадыслакуюць туды... Калі гэта здарыцца, я вас вызаву.

Упершыню за вялікі перыяд часу Генрых атрымаў некалькі цалкам свабодных дзён, і ён думаў пра гэта з сумам, нават жахам.

Ноччу яму снілася, што ідзе ён з Монікай вуліцамі Кіева і белыя пялёсткі каштанаў кружацца ў паветры і ціха кладуцца на чорныя валасы дзяўчыны.

Праз некалькі дзён прыйшоў пакет ад Лютца. Апрача афіцыйнага загаду прыбыць у штаб дывізіі, на яе новае месцазнаходжанне, у пакеце быў і ліст.

«Дарагі сябра! — пісаў гаўптман. — Ніякіх падрабязнасцей трагічнай смерці мадэмуазель я не магу паведаміць, бо ніхто нічога не ведае, апрача таго, што яе збіла нейкая праезжая вайсковая машына. Спачуваю табе, Генрых, і спадзяюся, што ты знойдзеш у сабе мужнасць годна перажыць гэту цяжкую страту...»

 

## Людзі, сярод якіх мы жывем

# ТАВАРЫШ ЛУШЧЫНСКІ



Бельск Падляшскі і ўвесь Бельскі павет усё яшчэ жыве пад уражаннем свайго свята — дзевяцісотгоддзя. Лозунг: «Бельшчына кляймуе фашызм, Бельшчына — за мір!» вітае чалавека па ўсёй тэрыторыі Бельскага павета.

— Мне хацелася б знайсці ў вас чалавека, які мог бы быць жывой ілюстрацыяй да гэтага лозунгу.

Першы сакратар павятовага камітэта ПАРП тав. Тафілюк задуменна пахіліў галаву. Пасля некалькіх хвілін ён адазваўся:

— Такіх людзей у нас шмат і таму трудна вырашыць, каго бы вам рэкамендаваць. Напішыце пра старшыню прэзідыума ГРН у Грыгораўцах тав. Аляксандра Лушчынскага.

Старшыня Лушчынскі аказаўся ў водпуску і знаходзіўся ў сваёй роднай вёсцы Дыдулі.

Я меў нагоду пазнаёміцца з гэтым чалавекам шмат даўней. Мы сустракаліся ўжо некалькі разоў, але ніколі не прышлося даўжэй нам пагутарыць аб яго працы, аб яго жыцці.

— Бачыце, вось які ў мяне водпуск, — швырнуўшы на бок толькі што зробленае пярэвясла, сказаў старшыня. — Думаў, з аўсом упраўлюся, а тут дождж не дае спакою. А вы з чым?..

— Ну...

— А гэта ўсё роўна. Калі ўжо прыехалі, дык што ж рабіць? Будзьце госцем.

Я хутчэй працягнуў папяроску. Вядома, папяроса зблізкае людзей, яна пабуджае думкі, а на звіўных воблачках яе дыму лёгка і спраўна ляцяць успаміны. Аляксандр Лушчынскі нарадзіўся 56 год таму назад. Быў адзіным дзіцём, але ў раскошы не пажыў. Гаспадарка бацькі, велічынёю ў паўтара гектара зямлі, не магла пракарміць нават тры душы. Трэба было шукаць заробку.

— А з заробкам, што Вы думаеце, было, як цяпер? Хопіць, каб бацька падкрунуў вуха за хуліганства, а сын збіраецца з хаты і ўжо на другі дзень мае работу за 2 тыс. у месяц. А тады ў Гайнаўку, у Белавежу за 30 кіламетраў прыходзілася пехатой хадзіць. Калі добра трапілася, дык зарабіў чалавек паўтары залатоўкі ўдзень. Часта аднак працы не было і тады зноў адмервай назад гэтыя 30 км.. Не толькі на цягнік, але на кавалак каўбасы не хапала.

У такіх умовах фармавалася і замацоўвалася бядняцкая свядомасць маладога Аляксандра Лушчынскага.

Настаў 1931 год — год агульнаеўрапейскага эканамічнага крызіса і завостранага санацыйнага тэрору, год нарастання фашызацыі Польшчы.

— Летам 1931 года дзядзька мой купіў у Шчытах хлеў. Я памагаў яму перавозіць яго. У час зрывання страхі знайшоў я ў саломе жмут нейкіх папераў. Калі дома разгледзеў іх, аказалася, што гэта камуністычная літаратура. І гэта сталася для мяне прычынай непасрэднага кантакту з камуністамі.

У лютым 1932 года Аляксандр Лушчынскі ўступіў у члены Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі.

— Што мы рабілі? Тое, што ўсюды ўсе іншыя камуністы. Перш за ўсё агітацыя, вывешванне сцягоў, лозунгаў ды распаўсюджванне лістовак.

Зараз проста і складна аб тым гаварыць, а тады «дэфензыва» ўжо да таго разбудавала свой апарат і сетку шпікаў, што чалавек не мог упэўнена ступіць ані аднаго кроку. Нягледзячы на тое, ані адзін Першамай ці Кастрычнік, ані адзін фэст ці іншае свята, ані адны выбары не абышліся без чырвоных, камуністычных кветак. Паліцыя шалела са злосці.

— Паліцаі пусцілі ў вёсцы слух, што я злодзей. Людзі, зразумела, не паверылі, але для паліцыі была гэта дастатковая прычына, каб пазрываць у маёй хаце падлогу, страху, разбіць печку. Рэвізія не давала спадзяваных вынікаў. Тады сыпаліся штрафы за найменшае глупства. Гэта паўтаралася шэраг гадоў.

Самымі цяжкімі былі аднак гады 1933—34. У тым перыядзе Лушчынскі аж чатыры разы пабываў у катоўні «дэфы» у Бельску. Камендант Радульскі не пашкадаваў яму найбольш страшных прыёмаў катавання. Лушчынскі маўчаў. Найстрашнейшыя здзекі не развязалі яму языка. Вяртаўся дамоў, прыходзіў да сіл і здароўя ды зноў разносіў лістоўкі, вывешваў сцягі, лозунгі.

— Навокал ішлі арышты, цяжка было працаваць, але яшчэ цяжэй прышлося ўспрыняць вестку аб роспуску нашай партыі ў 1938 годзе. Мы з гэтым не прымірыліся і далей лічылі сябе камуністамі.

1939 год прынёс вайну. Рукамі такіх людзей, як Аляксандр Лушчынскі, устанаўлівалася савецкая ўлада на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Не паспела аднак добра яна тут замацавацца, як рухнула жалезная гітлераўская арда, сеючы па дарозе страх, тэрор і смерць. Лушчынскі ноччу не спаў у хаце. Так прайшло паўгода.

— Аднойчы прышлі трое ўзброеных. Гаварылі парýску. «Вы будзеце Аляксандрам Лушчынскім?» «Я». «Пойдзеце з намі».

Завялі мяне ў лес. Там аказалася іх цэлая група.

— Мы савецкія партызаны. Хопіць хаваць галаву ў пясок. Трэба дзейнічаць. Ты будзеш нашым сувязным.

Ізноў паплылі дні ў напружаным чаканні на арышт і на... смерць.

Арганізаванне харчавання, назіранні за рухам фашысцкага войска і цягнікоў на недалёка прабягаючых двух чыгунках.

— Бывала, што ў хаце не было чаго есці, а жонка пякла хлеб для партызан. Або неаднойчы замаскуешся недзе каля чыгункі і цэлую ноч сядзіш ды лічыш эшалоны. Над ранкам вынік складаеш у дамоўленым пункце, а ўдзень нармальна да працы, на поле. Ніхто ж не мог ведаць. Пад канец акупацыі праз неасцярожнасць аднай партызанскай групы ў вёсцы выявілася, што я сувязны. Людзі аднак не выдалі. Прыбліжаўся ж фронт.

Польская буржуазія не хацела без бою аддаць уладу ў рукі рабочых і сялян. Яна пасябравала з недабіткамі фашыстаў, выдала народу бандыцкую вайну.

— Недзе ў 1946 годзе бандыты спалілі тут некалькі вёсак, між іншымі і Залешаны. У мяне былі там сваякі. На другі дзень пайшоў я туды пагаядзець, што сталася. Перад Залешанамі затрымалі мяне нейкія ваенныя ў польскай форме. Яны давялі мяне да свайго камандзіра, якім аказаўся... мой знаёмы капітан Марозаў.

— Тваё шчасце, Лушчынскі, што на мяне натрапіў. Мае кабэвякі палічылі цябе бандытам.

— Дай мне, капітан, нейкі пропуск, — папрасіў я.

— Каб прынамсі твае людзі мяне не застрэлілі.

Капітан падышоў да грузавіка, дастаў аўтамат, торбу патронаў і сказаў:

— Вось табе пропуск! І яшчэ адно: даю табе партыйнае заданне: за тры дні часу павінен арганізаваць у сваёй вёсцы яшчэ 9 чалавек, якія узялі б вось гэтыя цацкі, — капітан патрос аўтаматам.

— У нас ад пачатку 1945 года існавала ўжо ячэйка ППР. Яе членамі былі: Ян Краўчук, Васіль Сахарчук, Аляксей Томчук, Сцяпан Томчук, Павел Томчук, Васіль Ігнацюк, Міхась Якубюк, Ян Ваўранюк і, зразумела, я. Вось да іх я і звярнуўся. Яны ўсе згадзіліся прыняць зброю. Такім чынам узнік узброены атрад у нашай вёсцы. З часам ён

(Працяг на стар. 7)



Янка Крупа пяцісоты раз падбівае сэрцы гледачоў бадзёрым вянгерскім танцам. На акардэоне грае Янка Гарчыца.

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю



Валя Сянкевіч і Люба Томчык спяваюць на пяцісотым канцэрце, зразумела, свае любімыя беларускія частушкі.

— Хачу запытаць цябе, чаго (што) найбольш не любіш?

— Спеху і нярвовасці. Першае перашкаджае працаваць, другое псуе здароўе.

— А што найбольш любіш?

— Усё бульбянае.

— На заканчэнне хацеў бы пачуць ад цябе пару слоў з тваёй біяграфіі.

— Пішы: паходжу з вёскі (не горада) Аўгустова пад Бельскам. Нарадзіўся шостага красавіка...

— Можаш не гаварыць: выглядаеш на васемнаццаць год.

— Цешуся. Дык вось — працаваў інструктарам БГКТ, а затым у павятовым аддзеле культуры.

— Думаю, што з тваім прыходам на працу ў «Лявонісе» культура непараўнальна больш скарыстала.

— Не цярплю адміністрацыйнай работы.

— Твае пажаданні?

— Скромныя. Не ўпускаць на канцэрты п'яных асоб. Хай не памагаюць нам весці канферансье. Абыдземся і без іх.

— Ад імя чытачоў і рэдакцыі «Нівы» жадаю «Лявонісе» тысячнага канцэрта!

Размаўляў:
**Сакрат Яновіч**
Фота **Г. Рагазінскі**

(Працяг са стар 1)

сім не смешны) ўступ, а публіка, бачу, рагоча — пакладаецца. Усе глядзяць недзе на ногі. Зірнуў і побач сябе ўбачыў мыш. На шчасце, хутка ўцякла, бо Люба, як кожная дзяўчына, баіцца гэтага шэранькага стварэння...



Пяцісоты канцэрт адбыўся 7 верасня г.г. у Шымках. Ён быў арганізаваны для школьнікаў і, як бачым на здымку, спадабаўся гледачам. Новую пяцісотку пачала «Лявоніха» таксама ў Шымках, гэтым разам канцэртам для дарослых.

---

Падвечар зазваніў тэлефон.

— Барон фон Гольдрынг? — спытаў знаёмы голас.

— Так.

— Вы і дагэтуль цікавіцеся копіямі Радэна?

— Буду вельмі рады, калі вы мне нешта запрапануеце.

— Тады дазвольце прыйсці да вас зараз.

Сустрэча з «антыкварам» цікавіла Генрыха цяпер больш, чым калі-небудзь. Спадзяючыся яе, ён нікуды не выходзіў сёння з нумару, адлажыўшы на заўтра свой ад'езд.

Хвілін праз дзесяць у нумар зайшоў «антыквар».

— Я не мог дачакацца вашага званка! — сказаў Генрых.

— Нешта здарылася?

— Дывізію нашу пераводзяць у Італію. Праўдападобна, у Кастэль ля фонтэ.

— Гэта нядрэнна! Бо якраз у паўночнай Італіі гітлераўцы трапяць у вельмі складаную сітуацыю. Калі прыбудзеце на новае месца, пазнаёмцеся з абставінамі і неадкладна паведаміце адрас. Адпаведныя інструкцыі атрымаеце. Не выходзьце за іх рамкі, будзьце вельмі асцярожны: партызанскі рух на поўначы Італіі значна сільнейшы, чым у тым раёне, дзе вы працавалі дагэтуль, і вас могуць падстраліць. А зараз вы ў ніякім выпадку не можаце рызыкаваць жыццём, памятаючы, што вас могуць

205

чакаць важныя заданні.

На другі дзень Ганрых, едучы шырокай аўтастрадай на Ліон, у мястэчку Жуаньі сустрэў ля рэстарана, у якім хацеў перакусіць, машыну свайго будучага цесця.

— Дзе зараз генерал-маёр? — спытаў Генрых шафёра.

— Не ведаю! — няветліва буркнуў эсэсавец.

Генрых накіраваўся ў рэстаран, але дарогу яму заступіў яшчэ адзін эсэсавец.

— Вам чаго? — спытаў ён бесцырымонна.

— Скажыце гечерал - маёру Бертгольду, што яго хоча бачыць барон фон Гольдрынг.

Неўзабаве ў дзвярах з'явіўся сам Бертгольд.

— Адкуль? Якім чынам? — кінуўся ён да Генрыха, абымаючы яго і цалуючы.

— Прашу, панове, астацца тут, пакуль мы з сынам паснедаем, — сказаў генерал да сваёй аховы і павёў Генрыха ў рэстаран.

— Гэта вельмі добра, што ты будзеш у паўночнай Італіі, — сказаў Бертгольд, выслухаўшы расказ Генрыха пра тое, адкуль і куды ён едзе. — Цяпер найлепш быць чым далей ад Нямеччыны... Два дні таму я адправіў фрау Эльзу і тваю Лорхен у Швейцарыю. Хай перасядзяць там...

— Яны паехалі надоўга? А я толькі ўчора з Парыжа напісаў Лоры...

— Ліст ёй перашлюць. Цяпер такія налёты, што

206

лепш нейкі час не вяртацца ў Мюнхен. Зараз лёс вайны будзе залежаць ад таго, як хутка мы падрыхтуем дастатковую колькасць новай зброі.

— Выходзіць, чуткі пра новую зброю не хлусня, а праўда? — з цікавасцю спытаў Генрых.

— Гэту праўду ворагі Нямеччыны неўзабаве адчуюць на сваёй скуры. Гэта такая штука, што адна батарэя можа сядзець у лясах Баварыі і спакойна і метадычна руйнаваць Лондан.

Убачыўшы на твары Генрыха шчырае здзіўленне Бертгольд рассмяяўся.

— Так, так, мой мілы! Лятаючыя снарады! Але пра гэта ніхто не павінен ведаць, нават твае найбліжэйшыя сябры.

— У мяне іх няма.

— А тая маладая француженка у Сан-Рэмі? Думаеш, не ведаю?

— Яна цікавілася больш кветкамі, чым снарадамі... І, апрача таго, яна некалькі дзён таму загінула.

— Загінула? Як?

— На яе наскочыла нейкая машына... Але вы не расказалі, як апынуліся ў Францыі?

— Новыя абставіны вымагаюць работы па-новаму. Возяцца тут з гэтымі макі, месяцамі трымаюць заложнікаў, калі іх пачкамі і на вачах усіх трэба страляць і вешаць! Вось і даводзіцца самому ездзіць і даваць настаўленні.

(Працяг за тыдзень)

207



 

## З пісем землякоў

# НЕ ДАРУЕМ!

Абяцала табе, дачанька, тлустага пеўніка беленькага прыслаць ды суседка Сошчыха, дрэнь ясная, забіла яго. Не скажу, сама не ўгледзела, як яна ганяла нашых курэй. Але твая хрышчоная пра ўсё мне расказала, бо якраз ішла тады ў атарод нарваць зелля свінням.

Татка разгневаўся на Сошчыху. Хадзіў сварыцца сам. Мяне не пусціў, бо з сэрцам маім штораз горш. Стаю ля акна і чую, як татка пытае Сошчыхі:

— Табе нашы куры перашкаджаюць, лахудра ты!?

А Сошчыха лямантуе:

— Не пускай здыхляціны сваёй, то і чапаць ніхто не будзе. Трымай іх сабе на панадворку, асталопе...

Падумай жа, дарагая, ці хто калі ўтрымаў курыцу на панадворку? Хіба, каб плот роўны з хатаю паставіць, і, прытым, шчыльны, бы сцяна.

Не стрымалася я, выйшла на ганак ды кажу да Сошчыхі:

— Калі вясною мае куры ў тваім гумне нясліся дык маўчала, яек не адносіла нам, нябось...

— А бачыла, што нясліся, га?

Маем мы гора з гэтай Сошчыхай. Татка прыгразіў ёй:

— Няхай толькі твая курыца ступіць нагою на мой панадворак...

Сошчынага пеўня добра ведаю, стары падла, таму татка і не меціў ў яго. Адну курку прыглушыў цэглаю пад хлеўчыкам, а другой перабіў ногі — гэтай, якую табе, дачанька, слала.

Прыкра, што цяпер не мату нічога прыслаць. Нядаўна прапала ў нас тры курыцы. Няйначай, Сошчыха пабіла іх.

Просім яе:

— Аддай куры, сука!

— Хвігу, во!

Татка схапіў за прыколак, а яна грымнула дзвярыма за сабою, замкнулася, адчыніла акно і енчыць:

— Людкове, ратунку!! Сяргей б'е — заб'е!..

Вылезла на вуліцу і пабегла на пастарунак міліцыі. Пасля падала справу на карную калегію, каб асудзілі татку за пабой. Але, дзякаваць Богу, не асудзілі, бо татка яе не паспеў набіць — а чырвоную пляму, нібы сіняк, на патыліцы Сошчыха зрабіла сама сабе спецыяльна націраючы скуру соллю. Так сказаў лекар.

— Не дарую, — крычала.

Чыстая баба — ірад. Праз тыдзень зноў судзілася з намі ў калегіі, гэтым разам за пабітыя намі куры. «Старшы» суддзя казаў: — Пагадзіцеся, зрабіце згоду. Навошта вам здалася такая валакітня.

О, не! Сошчыхі па руках цалаваць не буду, хай сабе выкіне гэта з галавы.

Дарагая дачушка! Плашча пакуль не можам купіць, яшчэ не так холадна, пацярпі з месяц. Цяпер патрэбны нам грошы на зарэз. Твая хрышчоная, аказваецца, бачыла таксама, як Сошчыха ўносіла да хаты нашы тыя тры пабітыя куркі. Падаем ў суд — хрышчоная будзе сведкам.

Не даруем Сошчысе.

**Адоль КАСТРЫЦА**

Працяг са стар. 3

# РАДА І ЯЕ КАМІСІІ

чуваюць свой грамадскі абавязак. Ёсць у нашай радзе радныя, як, напрыклад, Сяргей Федарук з Гацькоў, Аляксей Мэтэнько з Райска, Міхась Кужаль з Праневіч, якія ў штодзённым сваім жыцці і дзейнасці сапраўды з'яўляюцца прадстаўнікамі народнай улады ў сваім асяроддзі. Але такіх меншасць. Большасць, на жаль, толькі тады чуюцца раднымі, калі збіраюцца на сесіі ГРН (на сесіях таксама не ўсе бываюць!)

— А як працуюць пасобныя камісіі рады?

Старшыня замест адказу выняў са стала пяць новенькіх папак і сказаў:

— Паглядзіце.

Бяру першую зверху папку. Чысценькая. Адразу відаць, што ніхто ёю ніколі не карыстаўся. Наверсе друкаванымі літарамі напіс: культурна-асветная камісія. Старшыня — Софія Шынголец. Раскрываю папку. У сярэдзіне таксама чыста. Няма ніводнай паперкі. Значыць, культурна-асветная камісія на працягу некалькіх год нічога не рабіла.

Адкладваю папку на бок і бяру другую.

Камісія грамадскай маёмасці. Старшыня — Юзэф Жэпнеўскі. У сярэдзіне чыста. Ніводнай паперкі.

Мандатная камісія, Старшыня — Аляксандр Хількевіч. Тое ж самае. Чыста. Камісія Бюджэтная — апошняя справаздача з 1961 года.

— Так, не цікавыя гэта папкі, — прызнаў я, адсоўваючы іх набок.

— Адна толькі камісія, якая мае відавочныя дасягненні ў сваёй дзейнасці, — сказаў старшыня, — гэта камісія сельскай гаспадаркі.

Я з цікавасцю ўзяў да рук папку гэтай камісіі. Яна тоўстая ад справаздач, пастаноў, пратаколаў. І хоць па колькасці канцылярскіх папярак нельга ацэньваць працы, а ўсё ж такі члены сельскагаспадарчай камісіі рады нарадовай у Храбалах сапраўды шмат зрабілі.

— Адным з трывалых слядоў працы камісіі з'яўляецца факт, што яна патрапіла поўнасцю загаспадараваць пакінутыя гаспадаркі, зямля якіх падлягала ПФЗ. А было гэтай зямлі на тэрыторыі нашай грамады каля 300 гектараў. Зараз у вёсках Храбальскай грамады не знойдзеш нават загончыка, які б не быў загаспадараваны.

Камісія сельскай гаспадаркі, старшынёй якой з'яўляецца Іван Врублеўскі з Дзяніскаў, апрацавала падрабязны план сваёй дзейнасці і сістэматычна яго выконвае. Яна на бягуча разглядае заяўкі сялян адносна прыдзелу дошак, бляхі ці іншых будаўнічых матэрыялаў. Дзякуючы адпаведнай працы гэтай камісіі ў вёсках Храбальскай грамады своечасова раздзелена паміж сялян кваліфікаванае збожжа на пасевы і кукурузу. А гэта садзейнічала лепшым ураджаям на палях.

— Калі б і другія камісіі рады так актыўна дзейнічалі, як камісія сельскай гаспадаркі, — кажа старшыня, — дык на тэрыторыі нашай грамады да гэтага часу шмат карыснага зрабілася б.

Цяжка зразумець бяздзейнасць, напрыклад, камісіі культуры і асветы.

На тэрыторыі ўсёй вялікай грамады Храбалы няма ніводнай святліцы, у якой квітнела б культурнае жыццё.

Ініцыятыва жыхароў Храбалоў у пабудове святліцы (яны даўно паставілі зруб) таксама заламалася, між іншым і таму, што не было ніякай падтрымкі і дапамогі з боку культурна - асветнай камісіі. У кожнай вёсцы Храбальскай грамады шмат таленавітай моладзі. Прыгожыя галасы, шмат ахвоты. Але няма тут ніводнага калектыва мастацкай самадзейнасці (пачаткі такога калектыва ёсць толькі ў Дзянісках), які мог бы выступіць перад гледачамі. Нават у вёсцы Райск, дзе пастаянна пражывае старшыня камісіі грамадзянка Шынголец, абсалютна няма ніякай культурнай дзейнасці. А барак, у якім моладзь арганізуе забавы, ужо звыш 10 год не рамантаваны і ён зусім развальваецца. Не найлепш выглядае таксама справа з навукай у школах. Тут зусім неадзіночныя выпадкі, калі дзеці ў школьным ўзросце зусім не ходзяць у школу.

— Калі б быў ўстаноўлены нейкі кантроль зверху, напрыклад, з прэзідыума ПРН над дзейнасцю гэтых камісій, — кажа старшыня, — дык можа яны былі б больш актыўныя. Дагэтуль ніхто іх дзейнасцю не цікавіўся. І таму яны існуюць толькі фармальна. Навошта ж такая фікцыя?

За тры гады адбудзецца ў нас выбарчая кампанія. Рады нарадовыя будуць абавязаны разлічыцца перад выбаршчыкамі са сваёй 4-гадовай дзейнасці. Што скажуць сваім выбаршчыкам радныя ГРН у Храбалах, якія належаць да паасобных камісій рады? А ім жа людзі даверылі!

**В. БАРШЧЭЎСКІ**

# У ЧАРЭМСЕ

Партыйная арганізацыя чыгуначнага вузла ў Чарэмсе з кожным годам дабіваецца ўсё лепшых і лепшых поспехаў у выхаваўчай, прадукцыйнай і культурна -асветнай працы. І вось гэтыя дасягненні ў сваёй дзейнасці будуюць ёй аўтарытэт, прыбаўляюць новых сіл да працы членам партыі, а перш за ўсё яе кіраўнікам. У гэтым артыкуле не будзем гаварыць аб сталым перавыконванні дзяржаўных заданняў, не аб існуючых там брыгадах сацыялістычнай працы, не аб перадавых людзях, але аб тым, як партыйная арганізацыя садзейнічала пабудове ў Чарэмсе дома культуры. А было гэта так. Насельніцтва Чарэмхі моцна адчувала недахоп у іх асадзе культурнага цэнтра. Не было дзе культурна правесці вольны час. І вось на адным з пашыраных пасяджэнняў закладовага камітэту чыгуначнага вузла ў 1958 годзе нарадзілася ініцыятыва будовы дома культуры грамадскім чынам. Гэтую ініцыятыву адобрыла ўся партыйная арганізацыя, усе рабочыя і жыхары асады Чарэмха. На наступным пашыраным пасяджэнні закладовага камітэту былі створаны грамадскі камітэт будовы дома культуры. Заданні яго былі не лёгкія. Распачаў камітэт працу ад зборкі грошай. Члены партыі, а за імі ўсе рабочыя пачалі дабравольна уносіць пэўныя сумы са сваіх грашовых ашчаднасцей. І так працаўнікі і рабочыя паравознага дэпо сабралі больш 9 тыс. зл., рабочыя насычальні драўніны 6,5 тыс. зл., ваганоўні — больш 5 тыс. зл. і г. д. Добраахвотныя складчыны склалі суму 45 тыс. зл. Апрача таго ўсе рабочыя і служачыя абяцалі пра-

## Крынкі — не Новая Гута

Да вайны, кажуць, было ў Крынках звыш ста сарака гарбарняў — фабрык і майстэрняў. Пасля вайны не засталося тут нічога, калі не лічыць дамарослых гарбароў - патаемнікаў.

Праз некалькі год, недзе ў адным з варшаўскіх міністэрстваў дайшлі да вываду, што ўсё ж не варта так зусім забыць пра гэту вядомую калісьці мясціну. Вырашана было адбудаваць адзін з найменш знішчаных фабрычных будынкаў. І ад святочнага 22 ліпеня 1953 года рушыла першая прадукцыя.. Атрымала працу і заробак каля сотні людзей. Рабочых з дзеда - прадзеда і тых, яшчэ на палавіну гаспадароў, што з апошнім гудком бягуць не на абед дадому, а ў поле, каб араць, сеяць, жаць да змроку.

Прысыланыя з далёкіх гарадоў кіраўнікі фабрыкі адчувалі сябе ў Крынках, бы ў глушы. Кожны з іх трактаваў сваю работу, як часовую, от на гадок - два. Таму назмянялася іх больш чым пальцаў на руцэ... Знiжалася дысцыпліна, шырыўся балаган, крадзеж.

Партыйна - прафсаюзная камісія, спецыяльна створаная для разгледжання цяжкай сітуацыі на фабрыцы, у сваім пратаколе ад 3 жніўня 1957 г. сцвердзіла, што, трэба звольніць кіраўніка Антона Вiткоўскага. На яго месца запрапанавалі Мікалая Валошына, які (цытую), «нятледзячы на тое, што сам ён не з'яўляецца гарбаром па прафесіі, з'яўляецца, аднак, добрым арганізатарам і карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод работнікаў, з якімі працуе ад пачатку існавання фабрыкі. Затым, Мікалай Валошын як пастаянны жыхар Крынак дасканала ведае ўсіх людзей і з кожным працаўніком зможа наладзіць адпаведнае супрацоўніцтва».

І так, чарговым кіраўніком крынкаўскай гарбарні назначаны Мікалай Валошын.

Беластоцкая дырэкцыя з прыемнасцю адзначае першыя зрухі на лепшае. Узмоцнілася дысцыпліна, ліквідаваны рабункі, узраслі тэмп і рытміка прыдукцыі. Яе вартасць дасягае цяпер 50-ці мільёнаў злотых у год. Крынкі нязменна ўтрымліваюць другое месца ў Польшчы ў сацыялістычным спаборніцтве сярод гарбарскай прамысловасці, і вось... Зрэшты, не забягайма наперад.

Дырэктар **Рагоўскі** ў Беластоку тлумачыць:

— Найбольш плённым аказаўся 1960 год. Выраб скур павялічыўся з 151,4 тыс. квадратных метраў у 1959 г. да 177,7

## Звольнілі і... што далей?

тыс. $м^2$. З 520 тыс. зл. страт па гатунковасці прадукцыі было дасягнута 1 мільён 63 тыс. зл. даходу! Не жарты! Надыходзіць 1961 г. і прадукцыя ўзрастае мінімальна (179,6 тыс. $м^2$), а за першае паўгоддзе б. г. выпушчана толькі 82,1 тыс $м^2$ скур. З даходнасцю па гатунковасці слаба.

### У ЧЫМ СПРАВА?

Кіраўнік **Валошын** гаворыць:

— Непасрэдная адказнасць перад дырэкцыяй за стан прадукцыі спадае на мяне. На жаль, кіраўніцтвы партыйнай і прафсаюзнай арганізацый не дапамагаюць у кіраванні фабрыкай, а намагаюцца заступаць мяне. Лёгкаю рукою адмяняюць выданыя распараджэнні. Замест прыйсці, параіцца, перадыскутаваць — пачалі «буркаць». Ці даўно? А ўжо ад двух год.

Дык дзе ж тут можа быць мова аб аўтарытэце!?

**Мікалай Носка**, сакратар партыйнай арганізацыі:

— Да Валошына, як спецыяліста не маем закідаў. Аднак, апрача прафесіянальных кваліфікацый патрэбна яшчэ ўмець супрацоўнічаць з калектывам. А гэта, бадай, з'яўляецца найважнейшым у кіраўнічай працы. Зычлівасць, сардэчнасць, давер — вось гарантыя добрых вынікаў. Нават калі каня паклапаць, дык лепш цягне. А што гаварыць аб чалавеку.

План планам, але за машынамі трэба заўважаць людзей. Усякіх, маючых свае жыццёвыя

# ВУЧЫСЯ, НЯБОЖА, НАВУКА ПАМОЖА...

## БЯДА З ЛІЧЭННЕМ

— Хаця лета мелі халоднае, але жніво, як заўсёды, гарачае, — кіраўнік Барыс Аніськевіч з Ваяводскага Праўлення сельскагаспадарчых гурткоў расказвае. — Багацеем, нават хутка багацеем. У канцы ліпеня «Ніва» пісала, што маем 517 машына-трактарных камплектаў. А цяпер? Запішыце: толькі за месяц жнівень зноў закуплена каля ста новых. Вось! Разам ёсць ужо іх на Беласточчыне 611 і 850 малацільных агрэгатаў. Тэхніка, брат, ідзе ў нашу вёску...

Звыш 200 тысяч гадзін прапрацавалі снапавязалкі ў час жніва. А трэба ведаць, што гектар збожжа жнуць за паўтары гадзіны. Гаспадара каштуе гэта каля 200 зл. Жнеі заціналі б хіба ў два разы даражэй...

Ды не ўсюды лічыць умеюць, вось бяда. Няўжо непісьменныя? Не, пісьменныя. (Непісьменнасць, моў, даўно ліквідаваная) .Непераконаныя да тэхнікі? Э-э, задалікатна сказана. Проста, несвядомыя. Гаспадары на Сакольшчыне несвядомыя! Гэтага ўжо нельга сказаць аб малой Дуброўшчыне, дзе закуплена 22 машына-трактарных камплектаў і 30 малацільных агрэгатаў... А тут усё па-старому, ледзь не з часоў цара - бацюшкі. Як было калісьці 12 машына-трактарных камплектаў, так, мабыць, яшчэ доўга будзе.

— Маемся мы з гэтай Сакольшчынай, — уздыхаюць.

Непрыемна. Змяняю размову.

Пытаю гэтым разам у ваяводскім аддзеле сельскай гаспадаркі:

### ЯК ВЫГЛЯДАЕ ПАДРЫХТОЎКА ДА АСЕННЯЙ СЯЎБЫ?

Перш за ўсё значна ўзрасце лік рэпрадукаванага жыта (2.225,5 тон) і азімай пшаніцы (да 241,2

(Працяг на стар. 7)

мадскую працу ў час будовы, а гэта зноў склала многа тысяч зл.

Дзякуючы арганізатарскай дзейнасці закладовага камітэту і ўсёй партыйнай арганізацыі былі зроблены выкапы пад фундамент, закладзены фундамент і пастаўлены сцены за кошт грамадскіх грошай і працы. Такую ахвярнасць і імкненне да будовы дома культуры рэдка дзе можна спаткаць. І вось таму аказалі падтрымку ў гэтай будове павятовыя і цэнтральныя ўлады. На падтрымку грамадскіх работ павятовыя ўлады ў Гайнаўцы асігнавалі 15 тысяч зл., а акруговая чыгуначная дырэкцыя ў Варшаве прыдзяліла 400 тысяч зл., а пасля ўзяла як сваю інвестыцыю і давяла да канца будову дома культуры.

Зараз у памяшканні дома культуры ёсць зала кіно на 250 месц, чытальня, зала да іграў, вялікае месца на буфет і іншыя пакоі.

Трэба адзначыць і тое, што Варшаўская чыгуначная дырэкцыя багата абсталявала гэты дом культуры. Прыгожыя мэблі, радыёпрыёмнік, тэлевізар і розныя прадметы да іграў каштавалі 300 тысяч зл. Цяпер у Чарэмсе ёсць дзе культурна правесці час. І гэтым усе вельмі задаволены. А людзі, якія шмат улажылі арганізатарскай працы, акружаны яшчэ большай пашанай. Да іх належыць Мікола Раманчук, Аляксандр Туркевіч, Уладыслаў Гансяроўскі, Рышард Крычко і сакратар закладовага камітэта ПАРП Іван Бяляўскі. Дзякуючы іх ахвярнасці і аўтарытэту Чарэмха ўзбагацілася яшчэ адной вельмі важнай установай.

м. х.

На здымку: **Дом культуры ў Чарэмсе.**



## На паперы ўсё цудоўна

У найбольш прасторнай зале, якую толькі мае пачатковая школа ў вёсцы Грабарка, сабраліся вучні на ўрачыстае адкрыццё новага навучальнага года. Сядзяць па трох - чатырох за партамі і слухаюць прывітальнае слова кіраўніка школы Галіны Годун.

А яна роўным, крыху ўсхваляваным, але выразным голасам расказвае сваім выхаванкам аб тым, у якіх умовах вучыліся дзеці даўней, аб вайне, аб пабудове новых школ у нашай краіне і на Беласточчыне, аб велізарнай дапамозе дзяржавы ў адукацыі моладзі і... Раптам яе роўны голас ламаецца, плечы неяк нервова ўздрыгваюць. Настаўніца намагаецца ўстрымаць непатрэбнае ўсхваляванне Аднак не можа. Праз слёзы прарываецца яе дрыжачы голас:

— Дарагія дзеці... З увагі на тое, што ў нашай школе не зроблены на час рамонт... прыдзецца нам працаваць у некалькіх сялянскіх хатах. Прашу вас, захоўвайцеся асабліва ветліва і спакойна...

Так, разумею настаўніцу. У Грабарцы вучыць яна ўжо 15 гадоў. Не адно пакаленне дзяцей прайшло праз яе рукі. Зраслася яна з гэтай школай, як старая груша з польнай мяжой, а кожны вучань для яе — роднае дзіця. Нічога дзіўнага ў тым, што аж так цяжка было ёй аб'явіць вучням гэтую непрыемную вестку.

Як дайшло да таго, што дзеці з грабарскага раёну некалькі месяцаў змушаны вучыцца ў непрыстасаваных да навукі сялянскіх хатах?

У палавіне жніўня падінспектар школьны на Сямяціцкі павет тав. Высоцкая аптымістычна і аўтарытэтна заявіла мне, што рамонты на ўсіх аб'ектах школьных ідуць нармальна. А тым часам...

— Так па-праўдзе кажучы, — сцвярджае настаўніца Галіна Годун, — гэтаму школьнаму будынку ўжо наогул не паможа ніякі рамонт. Зараз ён увесь апанаваны грыбом. Баюся, што зусім рассыплецца, калі рабочыя да яго дакрануцца. Але няхай бы рамантавалі! Каб толькі не цякло нам і вучням на галовы, каб можна было паліць у печках!

Школа ў Грабарцы пабудавана ў 1940 годзе. Матэрыял на яе пабудову выкарыстаны ад старога будынка. На працягу мінулага 20-цігоддзя будынак гэты бачыў ужо не адзін рамонт. Яго праводзілі і мясцовыя сяляне ўласнымі сіламі і памагалі ў тым асветныя ўлады. Аднак зараз ён зусім не прыгодны для навучання дзяцей.

— Мы аб тым добра ведалі, — сцвярджае падінспектар тав. Высоцкая, калі другі раз я завітаў да яе. — Ужо 19 сакавіка б.г. мы аб'явілі конкурс на рамонт школы ў Грабарцы. Кошт рамонту — каля 50 тыс. зл. За выкананне ўзяўся рамонтна - будаўляны кааператыў з Сямяціч. Вось умова, якую мы яшчэ 30 мая б.г. падпісалі з гэтым кааператывам. Яны мелі распачаць працу ў першых днях чэрвеня.

Так, на паперцы ўсё цудоўна! Інспектарат мог быць спакойны і здаволены выкананнем свайго задання!

У сапраўднасці працаўнікі ўказанага кааператыва не пачалі працы нават у верасні. Рамонт пры найбольш спрыяльных умовах можа працягвацца і да 3-х месяцаў. Увесь гэты час вучні і настаўнікі будуць змушаны працаваць ва ўмовах, далёкіх ад галоўных патрэб школьнай дыдактыкі і гігіены.

Старшыня прэзідыума ПРН у Сямяцічах гэтае нядбайства паясняе тым, што ў час канікул чатыры працаўнікі інспектарату (на 6 там працуючых) былі па месяцы часу непрысутнымі ў працы. Іх непрысутнасць апраўдваецца экзамінацыйным водпускам. Не было тады каму ў весці належнага кантролю над ходам рамонту ў школах.

Калі б нават паясненні старшыні прэзідыума ПРН у Сямяцічах успрыняць як зусім дастатковыя, дык і так гэта нічога не зменіць. Факт нядбайнасці застаецца непарушальным фактам, а дзеці сялян грабарскага школьнага раёну змушаны шэраг месяцаў мучыцца ў цесных сялянскіх хатах. А гэта ўжо не можа не турбаваць кожнага добрасумленнага чалавека. Тым больш, што школа ў Грабарцы з'яўляецца не адзіным прыкладам рамонтнай мітусні ў Сямяціцкім павеце.

**Максім Нурэцкі**

справы. Кожны з іх неяк думае аб фабрыцы, а, прынамсі, аб сваёй працы і заробку, што таксама не з'яўляецца чымсьці адарваным ад агульнай сітуацыі. Хацелі б, каб выслухалі іх заўвагі, вывады, якія насоўваюцца ў час працы. Хацелі б пачуць добрае слова, калі работа «ідзе» — і спакойную крытыку, калі нешта не выходзіць. Не супроць і кары «па заслугах», але без крыку, іранізавання.

Кіраўнік таксама чалавек, часамі не вытрымае, скажа непрыемнае слова. Здараецца. Але ці ж нельга праз гадзіну або на другі дзень прыйсці і сказаць: «слухай, раззлаваўся я ўчора...» Кожны зразумее.

**Бернард Гэльман,** старшыня прафсаюзнай арганізацыі:

— Валошын ва ўсім сам вырашае. Ні з кім не раіцца, а калі што не ўдасца, стараецца скінуць з сябе віну. Каго захоча, таго звальняе або прымае на працу... Нашым абавязкам як прафсаюзнай арганізацыі з'яўляецца абарона інтарэсаў рабочых! (моцна сказана!)

### ПАЯДЫНАК

— Пад катламі палілі прыдатнай да прадукцыі карою. Дыверсія!

— Няпраўда! Былі гэта толькі рэшткі перамешаныя з зямлёю.

— Пры перасоўванні перавярнулася машына — луплярка. Недагляд! Страты ў сотні тысяч злотых...

— Перасольваеце! Галоўны механік ацаніў страты на некалькі сот злотых.

— Паўлу Цюхаю не даў водпуску на паездку да сваякоў у Беларусь. Назнарок!

— Няпраўда! Цюхай сам адмовіўся ад водпуску з увагі на прадукцыйныя цяжкасці. Гэта па-першае, а па другое, ён працуе ўсяго толькі пару месяцаў...

Хто ведае, на колькі яшчэ месяцаў ці гадоў зацягнуўся б гэты паядынак?

* * *

Вынесена кароткае рашэнне: з увагі на нездаровую (шумлівую) атмасферу на фабрыцы звольніць Мікалая Валошына з займаемай пасады. Прадстаўнік з ваяводства жартаваў: давайце заложымся, што за два - тры гады гэтак сама будзем звальняць новага кіраўніка?!

**АЛЯКСАНДР АНТАШЭВІЧ**

Па той бок жыцця

## Сашка ўступае ў жыццё

Зкцынскага папраўчага дома звольнілі Сашку ў верасні мінулага года. Грамадскі куратар Шорц дапамог уладкавацца на працу ў механічнай фабрыцы ў якасці «чорнарабочага».

Ранкамі з маткаю выходзіць на першы завадскі гудок. Уліваюцца ў вулічны натоўп.

Сашка прыходзіў з работы раней. Скробаў бульбу, настаўляў абед — купляў у краме прадукты. Суседзі пры сустрэчах адварочваліся ў другі бок. Сашка стараўся як найменш паказвацца на вуліцы. Зрабіўся маўклівым. Вечарамі слухаў расказаў маці аб яе цяжкай маладосці...

Аднойчы, у кастрычніку, на фабрычнай браме ўбачыў плакат аб прыёме ў вечаровы тэхнікум. Тады нясмела пастукаў у пакой аддзела кадраў.

— Пахвальна, — сказалі яму. — Значыць, намераны вучыцца на тэхніка?

— Люблю машыны... — мармытнуў.

— Дык вось, дарагі мой. Папрацуй у нас гадзік, пабачым, што з цябе за работнік. Тады прыдзеш, падумаем... А так, зразу, не можам.

І пайшоў Сашка насіць лом да варштатаў. Штодзень валачыў жалеза і думаў аб тым, што, мусіць, на свеце наогул не існуе шчырасць, давер, а толькі маска, выхадка, хітрасць. Чуўся, як бы на яго плячах нехта выпісаў вялікімі літарамі «Злодзей». Слова гэтае вычуваў у размовах, людскіх позірках і ўчынках.

Вясною вярнуліся з «папраўчага» Генік, «Бомба» і «Каска».

— Хадзі ў кіно, Сашка!

Пайшлі. У кавярні фунднуў ім бутэльку віна. За сустрэчу! Сашка павесялеў і пачуўся, як бацька над дзяцьмі, якія знаходзяцца на яго ласцы.

* * *

Нядзеля. У беластоцкім «Тоне» дэманструюць «Пятнаццацігадовы капітан». Праз гадзіну і я дабраўся да касы.

— Два першыя месцы, — касір лічыць грошы, дае білеты. Збоку ціснецца юнак, паразумеўча моргае.

— Станьце ў чарзе, — кажу.

— Во, разумны знайшоўся... — чую за плячыма.

Адварочваюся. Панура глядзіць на мяне гурба маладзікоў.

— Як вам не сорамна?! — злуюся.

Змоўк гоман, ціха... Выходжу. На тратуары хтосьці шпарка праходзіць побач, затрымліваецца.

— Гэты! — крычыць. Прыглядаецца з-пад цёмных акуляраў.

Следзяць! Набліжаецца трэцяя гадзіна; жонка, пэўна, нецярплівіцца. Спяшаю. Услед яны, аб нечым шэпчуцца. Збіраюцца помсціць!

Іду ўверх па сходах. Адзін. Унізе хуткі стукат крокаў і рывок за рукаў. Кулак хлопца ў сонечных акулярах б'е па скроні. Закруцілася ў галаве. Валатузімся. Бягуць яго сябры на падмогу. З верхняга паверху залямантавала суседка: — Міліцыя, ратунку!

Разбегліся. А міліцыі, бы назнарок, нідзе не відаць...

Жонка прышывае рукавы. Знімаю кашулю з абарваным каўнерам, накладаю новую і іду шукаць паабрываныя гузікі. Знайшоў усе. На сеанс цікавага фільма не пайшлі. Запозна.

Не дарую! Цэлую зграю застаў на тым самым месцы, каля касы. Не спадзяваліся. «Цёмныя акуляры» тлумачыліся і бажыліся, рэшта знікла. Так пазнаёміўся з Сашкам.

**КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ**

# Трыбуна чытачоў

## Каб было больш пладоў і гародніны

Справе развіцця садоўніцтва і гародніны была прысвечана нарада сельскагаспадарчай службы і старшынь грамадскіх рад нарадовых, якая была арганізавана павятовым камітэтам ПАРП 7 верасня гэтага года ў Саколцы.

Цяпер на тэрыторыі павета гародніна займае плошчу 827,6 га, сады — 630,5 га, што складае 1,98% ворнай зямлі. Плошча, занятая садамі і гароднінай, не гарманізуе з якасцю прадукцыі. Палова плошчы пад садамі — гэта фруктовыя дрэўцы, пасаджаныя ля хат. Яны, у сувязі з нядобрым доглядам, не могуць нават забяспечыць фруктамі сваіх гаспадароў. Таксама выглядае і справа з гароднінай. Вясковыя агароды нагадваюць джунглі (салата, мак, буракі, маркоўка высаджваюцца на адным загоне) і таксама не могуць забяспечыць гаспадароў на ўсю зіму.

Гародніна і сады, прадукцыя якіх прызначаецца на продаж, займаюць плошчу каля 125 га. У час нарады асабліва ставілася пытанне аб павелічэнні ўраджайнасці з гектара. Абгрунтоўвалася гэта наступнымі доказамі:

а) Павялічыцца спажыццё гародніны жыхарамі вёскі, асабліва зімой і ранняй вясной.

б) Эканамічныя эфекты, атрыманыя з фруктаў і гародніны.

Удзельнікі нарады звярнулі асаблівую ўвагу на эканамічную выгаду ў расшырэнні садоў і гародніны.

Павет лічыць сваім абавязкам павялічыць плошчу пад садамі і гароднінай да 5%, гэта значыць, будзе 3730 га. Дзякуючы гэтаму, можна будзе толькі з гародніны на такой плошчы атрымаць прадукцыю за адзін сезон на суму 111,9 мільёна злотых, на гэту суму трэба было б засеяць 22380 га жыта.

Асаблівае месца павінна заняць садоўніцтва. У бліжэйшыя гады, дзякуючы лепшаму ўгнаенню і догляду частка прадукцыі пойдзе на экспарт. З гародніны першае месца павінна заняць цыбуля. Устаноўлены асноўныя раёны развядзення гародніны і садоў: Крынкі, Шудзялава, Бабікі, Карыцін, Саколка і Янаў.

Першым крокам у гэтым будзе арганізацыя падрыхтоўкі ў зімовы перыяд сельскагаспадарчай службы, а ў перыяд вясны і лета — паказы і вопыты. Пачатак зроблены, далейшая работа будзе сістэматычнай ва ўсім павеце пры ўдзеле ўсіх зацікаўленых.

**М. Гапунік**

## ТАВАРЫШ ЛУШЧЫНСКІ

(Працяг са стар. 3)

яшчэ павялічыўся новымі членамі. Дзякуючы гэтаму, бандыты не паказваліся ў нашай вёсцы.

Потым настаў шасцігадовы перыяд працы, цяжкай працы ў павятовым камітэце ПАРП у Бельску. Лушчынскі працаваў там інструктарам. Няма такой вёскі, у якой ён не быў бы па некалькі разоў. Дзядзьку Лушчынскага ведалі літаральна ўсе. Працаваў не азіраючыся ані на ўмовы, ані на зарплату. Працаваў, пакуль не зваліў яго з ног частковы параліч. Трэба было лячыцца. Лячэнне было цяжкае і працягвалася доўга. Але, калі толькі пачуўся на сілах, не захацеў застацца на боку, хаця прапанавалі яму партыйную пенсію. Вярнуўся да працы. Стаў старшынёю ГРН у Грыгораўцах. Ад 1948 г. без перапынку выбіраецца членам КВ і КП ПАРП. Ён узнагароджаны Сярэбраным Крыжам Заслугі.

Калі падаў я Лушчынскаму апошнюю ў пачцы папяросу, сонца выразна ўжо пераваліла за поўдзень. Тады на панадворак убегла яго жонка.

— Санька, чаго ж ты засядзеўся!? — загаварыла. — Брат цябе ў полі чакае!

А ўбачыўшы мяне, неяк канфузліва сказала:

— Прабачце, у нас пільная работа.

— Нічога, я ўжо не буду больш перашкаджаць. Толькі яшчэ адно мне скажыце: дзе ж Вашыя дзеці, што Вам адным прыйшлося працаваць на гаспадарцы?

— Абедзве дачкі выйшлі замуж. Маюць свае гаспадаркі і свае клопаты. Сын жыве ў Бельску. Ён у нас вывучыўся. Мае матуру. Працуе інструктарам у КП ПАРП у Бельску.

— З гэтага вынікае, што сын Вас там замяніў, тав. Лушчынскі, — заўважваю.

— Інакш не можа быць. Мы ўжо старыя. І дзеля гэтага змагаліся, каб маладыя нас замянілі! Гэта так нармальна. Важна толькі, каб зразумелі і дацанілі наш труд, нашы змаганні. Але выбачайце, я спяшаюся.

— Ну што ж, добрага здароўя і высокага ўраджаю!

**ВІКТАР РУДЧЫК**




**ПРАГРАМА**
**на 23—30.IX.1962 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Przeciwnicy" (węgierski), 25—27. „Samolot odlatuje o 9-tej" (radz.), 28—30.

**Навасады**
„Alba Regia" (węgierski), 29—30.

**Нараў**
„Skok o świcie" (radz.), 26—30.

**Нараўка**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 26—30.

**Чаромуха**
„Wielki balet w Ameryce" (radz.), 25—27. „Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 28—30.

**Чыжы**
„100 kilometrów" (włoski), 26—30.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Czarny rynek w Paryżu" (franc.), 26—30.

**Бранск**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 25—27. „Ten który wrócił" (radz.), 28—30.

**Гродзіск**
„Salwa o świcie" (radziecki), 29—30.

**Орля**
„Tu radio Gliwice" (NRD), 26—30.

**Райск**
„Zwykła historia" (radz.), 26—30.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Profesor Malmock" (NRD), 25—27. „Majowe gwiazdy" (czeski), 28—30.

**Міхалова**
„Pierwszy lot w kosmos" (radz.), 25—27. „Herszt" (francuski), 28—30.

**Супрасль**
„Marcin w obłokach" (jugosł), 25—27. „Bestia" (węgierski), 28—30.

**Чорна Беластоцкая**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 25—27. „Koniec drogi" (bułgarski), 28—30.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Dzień ostatni dzień pierwszy" (radz.), 25—27. „Żebro Adama" (USA), 28—30.

**Нурэц**
„Lunatyk" (franc.), 25—27. „Pragnienie" (rumuński), 28—30.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Przeżyłem swoją śmierć" (czeski), 25—27. „Wyższa zasada" (czeski), 28—30.

**Сухаволя**
„Z soboty na niedzielę" (angl.), 25—27. „Gorsza miłość" (węgierski), 28—30.

**Шудзялава**
„Statek z dynamitem" (rumuński), 26—30.

**Янаў**
„Światła na biegunie" (radz.), 25—27. „Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 28—30.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Dziewiąty krąg" (jugosł.), 29—30.

**Ружаны Сток**
„Liga dżentelmenów" (angl.), 29—30.

У днях 23 — 30.IX. у мясцовасцях Мілейчыцы, Кляшчэлі і Новы Двор фільмы высвятляцца не будуць.

## Навінская бібліятэка

Бібліятэка ў Навінах (Гайнаўскі павет) налічвае звыш 2300 кніжак, сярод іх 800 — на беларускай мове. Тут заўсёды шмат моладзі і старэйшых жыхароў вёскі. Яны чытаюць мастацкую літаратуру, а таксама газеты і часопісы, якія выпісвае бібліятэка. Любяць бібліятэку і дзеці. Яны тут часта слухаюць казкі, якія чытае ім бібліятэкарша Надзя Каранецкая. За добрыя адносіны да чытачоў і парадак у бібліятэцы Надзю Каранецкую любіць уся вёска.

**Зіна Ялінік**
Навіны

## На руку спекулянтам

На Сакольшчыне ў некаторых вёсках гавораць, што нашы ўлады клапоцяцца аб тым, каб працаўнікам прэзідыумаў грамадскіх рад нарадовых не было далёка хадзіць па гарэлку. Бо гарэлка прадаецца толькі ў тых вёсках, у якіх знаходзіцца сядзіба прэзідыума ГРН. А калі сядзіба прэзідыума ГРН пераносіцца да іншай вёскі, тады ўслед за ім пераводзіцца гарэлка. У Паўднёвым Востраве, Талькоўшчыне, Піражках і многіх іншых вёсках датуль прадавалася гарэлка у вясковай краме, дакуль не былі зліквідаваны гэтыя грамады. Такая форма барацьбы нашага гандлю супроць спажывання алкаголю вельмі на руку спекулянтам. Зараз амаль у кожнай вёсцы ёсць патаемны прадавец гарэлкі. Калі каму спатрэбіцца «агністая вада», дык часта так здараецца, што гаспадару не хочацца йсці некалькі кіламетраў да той вёскі, у якой знаходзіцца прэзідыум ГРН і крама з гарэлкаю. Ён згодны заплаціць за гарэлку значна даражэй, чым яна каштуе, толькі, каб не йсці. І так спекулянты набіваюць грашыма кішэні і дзякуюць нашаму гандлю. **мх.**

## ПЕРАДАВЫ ГАСПАДАР ЛЯЎКОВА

Каб усе гаспадары былі такія дысцыплінаваныя, як Васіль Трусевіч з Ляўкова (Гайнаўскі павет), дык секвестратары не мелі б работы. Ён ніколі не мае задоўжанасцей перад дзяржавай.

Васіль Трусевіч таксама сочыць за чысцінёй і парадкам у хаце і на панадворку. Прыемна пабыць у яго сядзібе.

Васіль Трусевіч і перадавы жывёлагадовец. У гэтай галіне ён славіцца ва ўсёй аколіцы. У яго коні, каровы і свінні такія тлустыя і зграбныя, што падобных няма ў суседніх вёсках. Таксама многа гадуе хатняй птушкі. Прыкладная жывёлагадоўля прыносіць Васілю Трусевічу вялікія даходы.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## З вёскі Кабылянка

У нашай вёсцы (Кабылянка, Беластоцкі павет), 40 гаспадароў. У часе вайны вёску спалілі нямецкія акупанты. Цяпер яна поўнасцю адбудавана. Дамы мураваныя, пакрытыя чарапіцай. Ёсць на месцы цагельня. Кожны з нашых хлопцаў мае веласіпед, а некаторыя — матацыклы. Некаторыя гаспадары маюць уласныя сажалкі, у якіх гадуюць рыбу. Развіваецца таксама жывёлагадоўля і садаводства. Ёсць у нас і торф, які таксама дае нашым людзям заробак.

**Ян Амброжэй**
Кабылянка

## БЯДА З ЛІЧЭННЕМ

(Працяг са стар. 5)

тон). Рэпрадукаванае — значыць, адборнае зерне з добрымі біялагічнымі якасцямі. І цэны яго меншыя, чым на вольным рынку... Коратка кажучы, створаны ўсе магчымасці, каб па ўраджайнасці змаглі дагнаць паўночныя паветы ваяводства, якія атрымоўваюць па 14—16 цэнтнераў з гектара. А мы? Па 8—10 цэнтнераў.

Гаспадары, якія сеюць ужо рэпрадукаваным зернем, абавязаны ў наступным тодзе абменьваць яго перад сяўбою з тымі гаспадарамі, якія яшчэ не карысталіся ім. Так павінна быць, але людзі «нюхаюць» у гэтым нейкую хітрасць?! На Гайнаўшчыне, напрыклад, вясною зусім не адбываўся абмен рэпрадукаванай яравой пшаніцай і ячменем. План абмену аўса выкананы на 23%.

**НЕРАЗУМНАЯ АСЦЯРОЖНАСЦЬ — ЗГУБНАЯ!**

— Не падайце духам, сказалі мне. З рэпрадукаваным зернем будзе так, як са штучнымі угнаеннямі (?) Некалі было — дык хоць ты плаці, каб узяў мяшок азатняку, а цяпер толькі паспявай давозіць...

Сапраўды. За кожны цэнтнер рэпрадукаванага зерня, абмененага суседу, дзяржава даплачвае 30 зл., а і сусед абавязаны даць узамен не 100 — але 110 кілаграмаў свайго «заморанага» жыта ці пшаніцы. Апошнім часам вывешваюць нават афішы з імяннымі спісамі гаспадароў: хто ў каго павінен зрабіць абмен на рэпрадукаванае зерне?

Мабыць, паможа.

Зрэшты, хопіць грызні. На заканчэнне, пару мілых (нарэшце!) сялянскаму сэрцу вестак. Атрыманы значныя колькасці штучных угнаенняў — азотавых, фосфарных, калійных і вапны. І так, Беластоцкі павет — 2 308 тон і 1 762 т. вапны; Бельск — 2 284 т. і 1 361 т. вапны; Дуброва — 615 т. і 216 т. вапны; Гайнаўка — 1.333 т. і 360 т. вапны; Сямяцічы — 1 815 т. і 394 т. вапны і (уф!!) Саколка мае 1 155 т. і 586 т. вапны.

З выкананнем гэтых лічбаў бяды не будзе. (Не тое, што ў мінулыя гады...) Хоць раз!

**Сакрат ЯНОВІЧ**

## У Альхоўцы новая крама

Крама ў Альхоўцы (Гайнаўскі павет) да апошняга часу змяшчалася ў малой прыватнай хаце. У ёй не маглі змясціцца ўсе тавары, таму шматлікія з іх ляжалі на гары і ў сенях прадаўшчыка. У краме быў вялікі непарадак, бо і як жа ў такой цеснаце ўтрымаць парадак?

Але гэта ўжо толькі ўспамін. 2 верасня г.г. было адкрыццё новай муравана крамы, якую будаваў Гайнаўскі ПЗГС. На адкрыццё крамы прыбыў старшыня ПЗГС Кастусь Майсеня. Ён горача дзякаваў жыхарам Альхоўкі за вялікую дапамогу пры пабудове крамы. Ад імя вёскі выступіў солтыс Альхоўкі Уладзімір Раманчук.

Зараз Альхоўская крама карыстаецца вялікім поспехам сярод жыхароў Альхоўкі і навакольных вёсак.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

## Пачалася падпіска на савецкія газеты і часопісы

1 верасня пачалася падпіска на газеты і часопісы Савецкага Саюза і краін народнай дэмакратыі на 1963 год.

Падпіску на ўсе савецкія выданні праводзяць усе аддзелы «Руху» у павятовых гарадах і гарадскі аддзел у Беластоку, вул. Ліпова 32а, пакой 17.

Падпісацца на савецкія газеты можна на год, паўгода або квартал.

Кошты падпіскі падаты ў цэнніку, які можна атрымаць на жаданне ва ўсіх пунктах «Руху».

Адначасова падаем, што падпіску на савецкія газеты і часопісы праводзяць таксама некаторыя кіёскі і магазіны «Руху». Вызначаныя пункты ў паветах, якія маюць адпаведныя друкі і вывескі, інфармуючыя аб падпісцы, дапамогуць чытачам зрабіць на месцы падпіску на выбраны часопіс ці газету з багатага выбарам савецкага друку.




Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesiecznie — 2.40 zł. kwartalnie — 7.20 zł. półrocznie — 14.40 zł. rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumerate indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Bltk F-3

